# ГЭТА МЫ !



ВЫДАНЬНЕ ЗАСНАВАНАЕ МЕНСКІМІ РАЁННЫМІ РАДАМІ МАЛАДОГА ФРОНТУ БНФ

№4

## Мабілізацыя ёсьць ВАЙНОЙ

За ўсімі часамі чужынцы квапіліся на нашую зямлю й ейныя багацьці. Нярэдка, здаралася, зваёўвалі краіну ды намагаліся асыміляваць наш этнас, зганіць зь ягонае памяці найвыбітнейшыя старонкі нацыянальнага росквіту, а наўзамен прышчапіць наканаванасьць спрадвечнага рабства. Аднак насуперак варожым захадам паўставалі людзі, чыя няскоранасьць часьцяком апыналася адзінай жыватворнай крыніцай існаваньня Бацькаўшчыны. Сярод такіх людзей і Усяслаў Чарадзей, і Вітаўт Вялікі, і Януш Радзівіл, і Кастусь Каліноўскі, і шмат іншых руплліўцаў нашае Радзімы.

> Вы забярэце лук і стрэлы –
> Пакіньце толькі твары нам ,
> Каб колерам чырвона-белым
> Намаляваць вайсковы стан.
> DEVIATION

Як акупацыя незмывальнай плямай кладзецца на нашую гісторыю, так і супрацiў акупацыі нязгасным зьнічом зьзяе скрозь стагодзьдзі. Паняцьце «акупацыі», якое было надзённае для дзяржавы за ўсімі часамі, асабліва выявілася зараз, калі й дагэтуль мэтанакіравана сьсякаюцца ледзь паўсталыя беларускія падросткі. Але праз трываласьць апошніх чужынцы не пасьпелі выцягнуць з урадлівае глебы маладое, але ўчэпістае карэньне, і з спаленае, пачарнелае зямлі паўсталі новыя шыхты – неабцяжараныя скаванымі догмамі Рух маладое беларускае Нацыі, абуджанае позвамі зьнявечанае маці-Радзімы.

Нашая рэчаіснасьць сёньня – гэта суцэльная барацьба супроць пражэрлівых акупантаў. Дзякуй Богу, нарэшце нават «памяркоўныя» расплюшчылі заспаныя вочы й угледзелі навалу. Але замест Дзеяньня яны пачалі «біць у рэйкі», «калаціць у званы», хоць самі цудоўна разумеюць недасягляднасьць гэтага. Афіцыйнае ж прызнаньне апазыцыйнымі коламі наяўнасьці акупацыі адбылося летась, калі 21-га чэрвеня '97 V-ты Сойм БНФ абвясьціў пераўтварэньне арганізацыі ў нацыянальна-вызвольны рух. Але хоць ці ня кожнаму відаць, што хада па ходніках поплеч з жаўнерамі МУС, мякка кажучы, не зусім адпавядае гучнаму найменьню. Багата яшчэ ў нашых шэрагах «талерантнікаў», што ўпарта глушаць у сабе галасы скатаваных у ГУЛАГу й Курапатах, якія заклікаюць да помсты.

Зрэшты, цяг гісторыі не спыніць: першы крок ужо зроблены, чаго б там не хацелася нашым злосьнікам. Яшчэ на пачатку стагодзьдзя расейскі гэнерал Шапашнікаў у сваім апублікаваным творы сьцісла й дакладна выклаў тэорыю знаходжаньня ў стане вайны. У шэрагу зь іншымі напрацоўкамі была падрабязна апісана зьява мабілізацыі – пераводу войска зь мірнага стану ў поўную баёвую гатоўнасьць. Асноўныя датычныя гэтага тэзы гучаць:

«Ня можа быць частковае мабілізацыі – яна або ёсьць, або яе няма: немагчыма ўвесь час трымаць у руках па рэвальвэру, бо ня будзеш здольны рабіць нічога іншага, апроч навядзеньня іх на ворага. Абвешчаная мабілізацыя ёсьць ні чым іншым, як фактычным пачаткам вайны. Мабілізацыя прадугледжвае перавод усіх наяўных рэзэрваў на патрэбы абвешчанага стану.»

*працяг на ст. 8*



# Беларусь Для БЕЛАРУСАЎ!



Чужынцы-дабрадзеі за апошнім часам бяз стомы, нібы заведзеныя, намагаюцца давесьці нам, "няўцямным беларусам", аб неабходнасьці стварэньня "поліэтнічнае дзяржавы".У якасьці аргумэнтаў –застарэлыя, як сьвет, штампы-клішэ: "павевы новага часу...", "сусьветная рэарганізацыя..." й да г.п. Пачуўшы што-нешта насуперак гэтаму, імгнена кідаюцца вінаваціць супярэчнікаў у "расісцка-шавіністычным экстрэмізьме", хоць узапраўды захады па абароне дзяржавы маюць пад сабой хіба нацыянальны грунт ды дзяржаўніцкае апірышча.

Азнаямоўваючыся зь інфармацыйным асьвятленьнем беларускае прасторы, пакрысе складваецца ўражаньне ўспрыйманьня беларусаў як людзей ніжэйшага гатунку, гэтакіх "лапатных бульбашоў з дужымі цяглiцамі, але бяз розуму".Уведзеная ў ранг дзяржаўнае палітыкі, такая лінія й дыктуе каштарысы бэтэшных праграмаў з удзелам псэўда-народных зборышчаў, якія мо' й маюць шчырыя памкненьні, але ў сьвятле спаказу адно сялянскіх гулянак толькі здыскрэдытоўваюць традыцыі – незьменныя элемэнты народнага сьветапогляду.

...Паводле статыстычных дадзеных сакавіку'98 беспрацоўнымі на Беларусі лічацца 12-15 адсоткаў ад насельніцтва. Заробкі зьніжаюцца з хуткасьцю уцёкаў ляснога зайцу. Народ ад безвыходнасьці ўсё часьцей аддаецца сьпірутовай непрытомнасьці, зьмяняючы рэчаіснасьць трызьненьнямі. А тым часам на шмат якіх буйных прадпрыемствах працоўныя мейсцы займаюць іншаземцы. Значная частка зь іх – гэта "жоўтыя": кітайцы, карэйцы, віетнамцы. Не кажу ўжо аб нахабнай "усходняй братве", што зазвычай засядае ўва ўладных кабінэтах і толькі й робіць, што выпісвае "дазволы " й "санкцыі" нам, беларусам.

...У гэтым годзе спабор пры поступах у ВНУ вагаўся ад 3 да 6 чалавек на адно мейсца. Аднак гэта не зашкодзіла залічыць без уступных іспытаў процьму выхадцаў з Расеі ды Афра-Азіяцкага рэгіёну – да таго ж на дзённыя адзяленьні. У дадатак да гэтага для іх – на выбар - лепшыя пакоі ў інтэрнатах. Нам кажуць , што за навучаньне іхныя краіны плоцяць у валюце. Але ж ці трапляюць тыя грошы да беларусаў – адзіных гаспадароў гэтае зямлі ?! Трапляючы ў бяздонныя кішэні разначынных іванаў, уралаў ды алтаяў, валюта асядае на банкетах , кортах і арэндаваных на на дзьве–тры асобы хакейных пляцоўках.

Найвышэйшая каштоўнасьць – гэта здароўе людзей. Менавіта тое здароўе , якое хутка разбураецца паўднёвымі ліхаманкамі ды сындромамі, усходнімі вірусамі й сьмяротнымі інфэкцыямі. Дзе найбольш лютуе той жа СНІД? Там , дзе жабрацтва й нэндза мяжуе зь зьвярынай ашалеласьцяй, - Кенія, Альжыр, Зымбабвэ, Ірак, Аўганістан... Там, дзе паўднёвая бязьлітасная сьпёка спрыяе ймгненаму распаўсюду часьцяком нявылечных хваробаў,- Іран, Заір, Замбія , Этыёпія, Таджыкістан... Адтуль і едуць да нас чужынцы. Скончыўшы тут ВНУ, яны йдуць на ўсё, толькі каб не вяртацца ў свае жабрацкія краіны, дзе ня маюць аніякіх даляглядаў. Застаўшыся ў нас, яны найчасьцей гандлююць наркотыкамі, рабуюць, крадуць — трэба ж нeяк жыць, каб не ўладкоўвацца на працу. Паводле тае ж статыстыкі сярод гандляроў наркотыкаў нацыянальнасьці разьмяркоўваюцца наступным чынам: цыганы, грузіны, узбэкі, азэрбайджанцы й чачэнцы. Дык ведаеце, што трэба рабіць з такім "інтэрнацыяналізмам"!...

Лёс паняволеных народаў, збольшага, заўсёды ідэнтычны. Нашыя акупанты таксама прагнуць пераўтварэньня нашае Беларусі ў заторганую бананавую краіну трэйцяга сьвету на чале з марыянэткай – "галоўным бананам" дзяржавы.

Ці ж хочаш Ты, Беларусе, каб Цябе, нібы бананавае шалупіньне, зьдерлі й, нягдатнага імпэрскім плянам , выкінулі на сьмецьце ды забыліся на йснаваньне некалі магутнае, зьнітаванае Нацыі?!

А таму – барацьба працягваецца!

Сяржук Сякера

# ДАРОГА ГОНАРУ

*Сяржук Шмялёў*

Адгучалі шмат урачыстых словаў з нагоды 80-ых угодкаў БНР. Вядзецца запіс у грамадзянства гэтае Рэспублікі, некаторыя кажуць нават, што ўрад БНР — адзіна прававіты для Беларусі. Нешта з гэтага — слушнае й разумнае, а нешта — проста сьмешнае. Але ня буду даваць гэтаму ацэнку — ідэя артыкулу ў іншым. Трэба, каб сьвята юбілею БНР не адсунула ў цень яшчэ большы духоўны, гістарычны й палітычны скарб — скарб Вялікага Княства Літоўскага. Тым больш, што шмат хто зь дзеячоў БНР марыў аб ягоным аднаўленьні.

Уявім на хвілінку, што нацыянальны рух перамог. Што адбудзецца далей? Згодна з Канстытуцыяй 1994-ага году, трэба будзе абіраць новага прэзыдэнта. Паглядзьма на наш народ без ружовых акуляраў. На жаль, за стагодзьдзямі акупацыі большая ягоная частка выраздзілася, страціла духоўныя каштоўнасьці, а шмат хто й увогуле забыўся на людзкае жыцьцё ды ўяву свабоды, прыймаючы за вышэйшы ідэал кавалак хлебу з тонкаю лустаю каўбасы, аздоблены йлжывымі абяцаньнямі. Як казалі беларусы раней, "абяцанка-цацанка, а дурню радасьць!" Каго абярэ такі народ… Новага Лукашэнку! Хай нават і зь цяперашняга дэмакратычнага лягеру — лідары з дыктатарскімі замашкамі ёсьць і ў ім. Пасьля гадоў барацьбы мы можам атрымаць новы рэжым.

Ёсьць, як сьцьвярджаюць, і іншая альтэрнатыва — парляманцкая рэспубліка. На першы погляд гэта выйсьце. Але кожны, хто меў хоць якоесь дачыненьне да паліталягічнае навукі, ведае: для йснаваньня такога палітычнага ладу патрэбная высокая палітычная адукацыя народу — тое, чаго ў нашых людзей няма й, напэўна, ня будзе яшчэ вельмі шмат часу. Таму ўсталяваньне парлямантарызму прывядзе нашую краіну да агульнага разладу. Тым больш, як мы памятаем, да 1994-ага ён ў нас ужо быў — ягонае наступства мы зноўтакі зараз назіраем.

Ці ёсьць іншае выйсьце? Вось тут якраз і заклічу: зьвернема ўвагу на адзіную паўнавартую беларускую дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае! Даўно ўжо трэба надаць Беларусі гістарычныя рысы.

Суполка канстытуцыйных манархістаў *Skarb VKL* выступае за ўсталяваньне дзяржаўнага ладу абмежаванае канстытуцыйнае манархіі, аргумантуючы неабходнасьць гэтага двума блёкамі доказаў.

Па-першае, як я зазначыў вышэй, для нашае краіны зараз не падыходзіць ані прэзыдэнцтва, ані парлямантарызм. Праз малую самасьвядомасьць і нізкую палітычную самаадукаванасьць беларускі народ ня можа пераадолець векавыя ланцугі няволі й скінуць зь сябе ейную аброць, ня можа пазбавіцца вялізнае пятае калёны, насаджанае ў нашым краі акупантамі. Таму, высоўваючы лёзунг "За народаўладзьдзе — супроць быдлаўладзьдзя!", *Skarb VKL* лічыць, што стырно ўлады мусіць узяць адукаваная *эліта*,— замінаючы шлях простанародным "неспадзяванкам" кшталту новых лукашэнак.

Па-другое, гэткі дзяржаўны лад узмацніць сувязі з традыцыйнасьцяй, гістарычным мінулым. "Змагацца" за спадчыну ВКЛ трэба ня толькі на старонках артыкулаў, але й на міжнародным таку, каб пераламіць заскарузлыя стэрэатыпы сусьветнае грамадзкасьці аб летувіскасьці Княства. Шырокае выкарыстаньне гістарычнасьці ў сымбалях, вонкавых прыкметах дзяржаўнага ладу мае надаць Беларусі свой твар, адметны ад іншых краінаў.

Дзяржаўны лад Беларусі мы бачым гэтак: існуе інстытут шляхецтва — разумовае эліты — і шляхта адрозьніваецца ад астатняга народу толькі неаднолькавымі выбарчымі правамі. Шляхта абірае дэпутатаў у Лаву Магнатаў — Вышэйшую Палату Сойму, якая ратыфікуе рашэньні, прынятыя Прадстаўнікамі астатняга народу. Над Соймам стаіць Вялікі Князь, які абавязкова мае быць зацьверджаны Лаваю Магнатаў. Князь разам з Соймам прызначаюць урад — Раду. Пры гэтым існуе магчымасьць зьняцьця Князя з пасаду, калі ягоная дзейнасьць ня будзе адпавядаць пэўным патрабаваньням.



Гэта толькі некаторыя рысы з распрацаванага намі праекту. Спрэчкі й пяроспары ў пэўных манархічных колах аб выглядзе беларускае манархіі ўсё яшчэ йдуць. Застаецца толькі зазначыць, што мы, манархісты, радыя былі б бачыць адроджанае ВКЛ у Бальтыцка-Чарнаморскім Зьвязе, аб якім ужо шмат было размоваў, бо гэтага вымагае геапалітычная неабходнасьць і гэта цалкам дапасоўваецца да нашае гістарычнасьці.

Немагчыма выкласьці – нават сьцісла – усе свае думкі ў невялічкім артыкуле, таму толькі даю пажытак для развагаў. Аднак адно я ведаю пэўна: надыйшоў час сунуць манархічную ідэю ў патрыятычных колах. І колы прыхільных да манархічнасьці людзей павольна, але няўхільна будуць расьці. Дый, зрэшты, вялікае хуткасьці тут быць і ня можа: кожны чалавек, робячы новы крок у сьветаглядзе, мусіць яго абдумаць. Таму паразважайце й Вы… І тады мо' калісьці й залунае над нашым абшарам улюбёны сьцяг, а імя нашае краіны будзе гучаць на вуснах жыхароў усяго сьвету.

**За Народаўладзьдзе!**

**Усталюйма ВКЛ!**

**Жыве Літва й жыцьме!**

# Час бараніць


Віктар Мухін

Наўпроцяж апошніх гадоў у гістарычным цэнтры Менску – Верхнім горадзе — шчыруюць нядрэнныя бізнэсоўцы, якія аб'ядноўваюцца ў АТ «Стары Менск». У выніку дзейнасьці гэтага таварыства большая частка помнікаў грамадзянскае архітэктуры Менску XVII-XIX ст. змытая з твару зямлі, а іхнае мейсца занялі аб'екты, якія толькі аддалена нагадваюць арыгінал, але чамусьці лічацца помнікамі. Гэта вынік г.зв. «муляжнае рэстаўрацыі»: гістарычны будынак цалкам зносіцца, па-барбарску руйнуецца, а ягонае мейсца займае копія з сылікатнае цэглы й жалезабэтонных блёкаў і перакрыцьцяў. Усе работы ў Верхнім горадзе вядуцца з мэтай стварэньня офісаў і прадстаўніцтваў для фірмаў і ўстановаў. Калі гаворка йдзе пра грошы, гісторыя й культура выпадаюць з-пад вока.

На жаль, сёньня ня вернеш ані ўнікальнае забудовы вуліцы Гэрцэна, ані дому, дзе жыў кампазытар Станіслаў Манюшка, і былое сядзібы вядомага беларускага мастака Валенція Ваньковіча ў аўтэнтычным выглядзе. Нічога гэтага ня вернеш, бо ламаць –– не будаваць.

Хоць у 1979 г. Верхні горад быў прыняты пад дзяржаўную ахову, а ягоная тэрыторыя была абвешчаная запаведнай зонай, дзе забараняецца новае будаўніцтва й пракладка магістраляў, а тым болей знос і разбурэньне помнікаў гісторыі й культуры, а ў сярэдзіне 80-ых гг. было прынятае рашэньне праводзіць на гэтай тэрыторыі толькі рэстаўрацыйныя працы – помнікі Верхняга гораду збольшага засталіся ў мінулым.

Але ўсё самае страшнае ня ззаду, а наперадзе. У газэце «Ва-банкъ» зьявілася інтэрвію вядомага менскага краязнаўцы Ўладзімера Дзянісава пра тое, што «два месяцы таму старшыня Камітэту па ахове культурнае спадчыны РБ Дз.Бубноўскі падтрымаў ідэю будаўніцтва на тэрыторыі манастыру базыльянак XVII ст. бізнэс-цэнтру й падкрэсліў што Верхні горад — гэта ня толькі помнік гісторыі й культуры, але й камэрцыйны аб'ект.» Хіба цікава камэрсанту, што ягоны офіс будзе разьмяшчацца ў зале з фрэскавай размалёўкай альбо ў пакоі пад унікальнымі крокведнымі перакрыцьцямі? Яго гэта не хвалюе — яго хвалюе прыбытак. Таксама, як хвалююць толькі грошы АТ «Стары Менск», якое непасрэдна нясе адказнасьць за разбурэньне дзесятку ўнікальных камяніцаў XVII-XIX ст. у Старым горадзе. А бізнэс-цэнтар – гэта ня пляны, але рэчаіснасьць. На пусташы, дзе да 1938 г. стаяла ўніяцкая, а потым – праваслаўная царква Сьв.Духу, збудаваная ў пач. XVII ст., ідзе падрыхтоўка да новабудоўлі. Тэрыторыя абнесеная плотам і абсталяваная хлеўчыкамі для рабочых. Як вядома, наш рабочы – не рэстаўратар, а паколькі ў РБ пасьля 70-і гадоў разьвітога камунізму цагліна й пляшка гарэлкі сталіся паняцьцямі тоеснымі, дык няцяжка здагадацца, што чакае на гэтыя помнікі, якія пакуль не крануў «карны меч» АТ «Стары Менск».

У Менску засталася апошняя магчымасьць захаваць для нашчадкаў сьведчаньні таго, як у мінулым будавалі горад менскія дойліды. Гэта комплекс малых дамоў №31-33 па вул.Інтэрнацыянальнай. Будынкі былі збудаваныя ў 90-х гг. XVIII ст. Аўтарам праекту лічыцца першы менскі губэрнскі архітэктар Фёдар Крамэр. На працягу XIX – пачатку XX ст. сур'ёзныя рэканструкцыі будынкаў не праводзіліся, і на сёньняшні дзень першапачатковае архітэктурнае вырашэньне фасадаў і пляніроўка захаваліся.

У паўночнай частцы дому №31 можна было ўбачыць цудоўную драўляную лесьвіцу XVIII ст. Але толькі да таго часу, покуль не распачалася рэканструкцыя будынкаў (пад філію Нацыянальнае бібліятэкі).

Гэтая рэканструкцыя зьнішчае помнікі ўжо сёньня: з усіх памяшканьняў зьніклі драўляныя шафы, умураваныя ў сьцены, кахляныя печкі XIX ст., дубовы паркет з арыгінальным малюнкам, драўляная вінтавая лесьвіца XVIII ст. Умовы бібліятэкі патрабуюць замены драўляных канструкцыяў на жалезабэтонныя. Яны ўжо замененыя над добразахаванымі службовымі й гаспадарчымі збудаваньнямі XVII-XIX ст.: флігелем, сьвіранам і стайняй, якія раней уваходзілі ў склад сядзібы мастака В.Ваньковіча.

Няма сумневаў, што ўнікальную крокведную сыстэму XVIII ст. над будынкам №31 спасьцігне гэты жа лёс. Як сьведчыць Уладзімер Дзянісаў, «гэты дах першапачаткова зьбіралі на зямлі. Пакуль муляры ўзводзілі сьцены, цесьляры побач на зямлі — а абрысы будынку ўжо былі вядомыя — зьбіралі канструкцыю даху. Унізе гэта было рабіць прасьцей, чым на вышыні. Да таго ж скарачаліся тэрміны будаўніцтва. Пасьля таго, як уся канструкцыя даху была гатовая, кожны ейны жывень пазначалі адпаведнымі знакамі — засечкамі. Канструкцыю разьбіралі, уздымалі на гатовыя муры й там зьбіралі наноўку ў адпаведнасьці з тымі меткамі. Мантажныя знакі XVIII ст. можна яшчэ ўбачыць... Я ўпэўнены: калі там зрабіць нармальныя дасьледзіны інтэр'ераў, то будзе знойдзены й жывапіс». Той жа Ўладзімер Дзянісаў сьведчыць: «Да пачатку рэстаўрацыйных працаў усе вуліцы Верхняга гораду мелі





старажытнае валуновае пакрыцьцё XVIII-пач.XIX ст. На мейсцы тае брукоўкі паклалі звычайную бэтонную плітку». І толькі ў двары будынку №31 па вул.Інтэрнацыянальнай вы можаце знайсьці ўнікальныя аўтэнтычныя фрагмэнты брукоўкі.

Дарэчы, наконт дворыку. Шмат каму ён нагадвае гэтак званы «італійскі дворык». І сапраўды — улетку ад гэтае зацішнае мяйсьціны ствараецца незабыўнае ўражаньне: галерэя з ажурнай агароджай на ўзроўні другога паверху абвітая дзікім вінагрозьдзем, які прасітноўвае толькі частку сонечнага сьвятла й стварае прахалоду нават у самае сьпякотнае надвор'е.

Зараз, дзякуй Богу, будынак яшчэ цэлы: сьцены амаль некранутыя — іх ня позна ўратаваць — драўляныя перакрыцьці таксама яшчэ ніхто не зьмяняў, унікальную каваную галерэю «зь вякоў мінулых» таксама пакуль не зьнялі, але вялізны кран, які ўжо пачаў ажыцьцяўляць свой герастратаў «подзьвіг», гатовы ў любую сэкунду зьнішчыць тое, што яму загадае чалавек.

Ці страціць Менск адно з апошніх сьведчаньняў таленту нашых продкаў — пакажа час. Але страціць стоадсоткава, калі мы ў чарговы раз выявім сваю ад'емнасьць і абыякавасьць. Таму зараз нам неабходна стаць плячо ў плячо, каб абараніцьрэшткі нашае спадчыны – інакш мы рызыкуем стацца міжвольнымі супольнікамі злачынства.

У 1980-ыя гады нешматлікія краязнаўцы, гісторыкі, нацыянальна-свядомая моладзь абаранілі Верхні горад ад зьнішчэньня, але гэта не была канчатковая перамога. Верхні горад ўсё ж напалову разбурылі, схаваўшы ўсё гэта пад маску «рэканструкцыі». Разбурэньне помнікаў ня спыненае й дагэтуль.

Дарэчы, у бліжэйшым часе распачнецца разбурэньне-»рэканструкцыя» будынкаў былога менскага гасьцінага двару на пляцы Волі – дамы №2,4,6,8,10 —узьведзенага ў XVIII-пач.XX ст. як комплексу мураваных двух-трохпавярховых камяніцаў. У інтэр'еры яшчэ дзе-кольвечы сустракаюцца лесьвіцы з каванай агароджай і печы, аблямаваныя кахляй, ляпніна ў інтэр'еры калідораў і пакояў. Калі цікаўны хоча даведацца, што можа стацца з гэтымі ўнікальнымі збудаваньнямі, няхай сходзіць на пляц Волі. Паміж гасьціным дваром і Сьвятадухаўскім катэдральным саборам (былым касьцёлам кляштару бэрнардынак) ён убачыць кавалак сьцяны й пусташ, абнесеную плотам. Гэта тое, што засталося ад помніку грамадзянскае архітэктуры XVII-XIX ст. – дому №19/21. Пад падмуркам дому знаходзіўся культурніцкі пляст сярэднявечнага гораду, скапаны будаўнікамі. Менчукі нярэдка знаходзілі там манэты, фрагмэнты керамікі, шкла, кахлі, а таксама... косткі людзей. Магчыма, гэта рэшткі масавых пахаваньняў менчукоў, забітых і памерлых ад хваробаў у час вайны 1654-1667 гг., калі ў выніку «вызвольнае» выправы маскоўскага войска была зьнішчаная палова насельніцтва Беларусі.

# спадчыну



Старажытныя камяніцы — гэта ня проста будынкі. Гэта нашая памяць. Памяць пра тых, хто ў іх жыў, хто іх будаваў — гэта своеасаблівы помнік усім загінулым у шматлікіх войнах, якія пракаціліся праз нашую краіну. Захаваць іх – споўніць свой абавязак перад продкамі, захаваць памяць пра іх для нашчадкаў.




пачатак у №3

# КРАІНА ЦМОКА:

## ДОСЬВЕД ЗМАГАНЬНЯ ЗА МОВУ Й НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

*Вінцук Вячорка*

### ПЭРЫЁДЫКА І ЭЛЕКТРОННЫЯ МЭДЫЯ

Нялёгка даводзіцца выдаўцам і рэдактарам валійскамоўнай пэрыёдыкі. Як сказаў нам галоўны рэдактар тыднёвіка Golwg («Пагляд»; друкуецца ў правінцыйным мястэчку), канкуруюць нешматлікія валійскамоўныя выданьні не адно з адным. Яны ўсе разам канкуруюць з магутнаю сілаю — тысячамі англамоўных газэтаў і часапісаў. Дагэтуль не ўдалося стварыць валійскамоўнага штодзёньніка. Месячнікі й тыднёвікі, што выходзяць па-валійску, прынцыпова ня блытаюць мовы й ня твораць трасянку на сваіх старонках, як гэта робяць пэўныя беларускія выдаўцы. Наадварот, валійцы ў сваіх неспрыяльных умовах намагаюцца пашыраць поле валійскамоўнае прэсы. Пры згаданым часапісе Golwg пачалі выходзіць дадатак для моладзі і ўкладка для дзяцей — абодва з пэрспэктываю стаць самастойнымі выданьнямі і абодва бяз слоўка па-ангельску. Вынятак — камэрцыйныя валійскамоўныя газэты Поўначы, якія друкуюць дзьвюма мовамі. На Поўдні камэрцыйных выданьняў па-валійску пакуль няма.

Частку спэцыялізаваных валійскамоўных пэрыёдыкаў матэрыяльна падтрымоўваюць дзяржаўныя фундацыі — Cyngor Celfyddydau Cymru (Валійская Рада Мастацтваў) і Cyngor Llyfrau Cymru (Валійская Кніжная Рада; дарэчы, штогод прыватныя й дзяржаўныя выдавецтвы друкуюць па 500-600 кніг валійскаю моваю). Але фэномэн, варты асаблівай нашай увагі, — papurau bro (папірай бро, суседзкія газэты). Гэтыя невялічкія агляды свойскіх навінаў па-валійску выдаюць суседзкія супольнасьці; газэткі ўспамагае недзяржаўнае згуртаваньне Cymdeithas Papurau Bro.

Працуе цалкам валійскамоўная недзяржаўная тэлевізія S4C (Sianal Pedwar Cymru). Акрамя навінаў, культурна-адукацыйных і дзіцячых праграмаў, яна вялікую ўвагу надае ўласнай прадукцыі сэрыялаў і тых самых "ідыёцкіх" жартоўных шоў, дзе запісаны рогат уяўных гледачоў у месцах, дзе належыць сьмяяцца. І, як здалося мне, прынцыповаму непрыхільніку "мыльнай" тэлевізіі, папулярызацыі мовы гэта спрыяе выдатна.

### ФОРМЫ ЗМАГАНЬНЯ

Ужо чую галасы: у іх там дэмакратыя, ім лягчэй, а падабенства, на якім настойвае аўтар, — штучнае. Катэгарычна пярэчу. Яшчэ трыццаць гадоў таму сытуацыя была катастрафічная і здавалася незваротнай. Уратавала мову ў 50-я — 70-я гады невялікая, але пасьлядоўная група сьведамых людзей. Перадусім яны сьведчылі штодня ўласным прыкладам, што ёсьць у Валіі людзі — і ня толькі пажылыя — якія гавораць паўсюль толькі па-валійску і патрабуюць адказаў на роднай мове. Яны адсядзелі ў вязьніцах за няўплату за сьвятло ці за арэнду, бо не атрымоўвалі квіткоў на роднай мове. Але адначасова бізнэс мусіў лічыцца з тым, што ў краму, ці ў банк, ці ў вакзальную касу, ці ў гуртоўню пачалі зьвяртацца КЛІЕНТЫ, ПАКУПНІКІ, якія гаварылі толькі па-валійску, якія рашуча дамагаліся адказу толькі па-валійску і ўпарта адмаўляліся разумець на «обуепонятном». А для прыватнага бізнэсмэна кожны кліент дарагі. Так быў створаны ПОПЫТ НА ВЕДАНЬНЕ МОВЫ, зь якім ужо мусіла лічыцца і схільная да шавінізму брытанская дзяржава.

Натуральна, дэмакратычныя мэханізмы, перадусім самакіраваньне, успамаглі справу ратаваньня мовы, але толькі ў Паўночнай Валіі, дзе мову і так рэальна было чуваць, прынамсі ў вуснах старэйшага пакаленьня. Але што да індустрыяльнага Поўдня і суцэльна абангельшчанага Кардыфа, — тут дзейнічаў апісаны мэханізм. Сьведамыя валійцы сталі перамагаць тады, калі ступень іхнай

грамадзянскай актыўнасьці пераўзышла ступень актыўнасьці англамоўных (хай сабе тых была пераважная бальшыня). Яны ўзяліся перадусім за адукацыю і працу зь дзецьмі й моладзьдзю.

## ГРАМАДЗКІ РУХ ЗА МОВУ ПАЧАЎСЯ ЗЬ ДЗЯЦЕЙ

Валійцы пачалі ствараць нядзельныя школкі, летнікі, гурткі. Самы павучальны прыклад – Mudiad Ysgolion Meithrin, Нацыянальная асацыяцыя валійскамоўных дзіцячых садкоў. Усё пачалося ў 1943 годзе, калі купка энтузіястаў утварыла першую (натуральна, недзяржаўную!) садочкавую групу. Гэта былі нацыянальна сьведамыя людзі, якія перадусім хацелі засьцерагчы сваіх дзяцей ад гвалтоўнай англізацыі ды забясьпечыць ім спрыяльнае псыхалягічнае асяродзьдзе (каб ніхто ня кпіў, ня зьдзекваўся і ня ціснуў "калектывам"). Але неўзабаве ініцыятары зразумелы, што калі паважна ставіць сабе мэту спыніць заняпад мовы, дык варта, па-першае, залучаць у Ysgolion Meithrin дзяцей з англізаваных сем'яў, а па-другое, зрабіць садочкавыя групы прэстыжнымі з гледзішча якасьці працы.

Што да якасьці працы гэтых садкоў, дык я быў уражаны велізарнай колькасьцяй літаратуры, кніжачак, плякатаў, аўдыя- і відэакасэтаў для 1052 групаў, рассыпаных па ўсёй краіне. Штогод дабрахвотных і аплатных пэдагогаў гэтых групаў зьбіраюць на мэтадычныя курсы. Асноўны лінгвадыдактычны прынцып (г.зн. падыход да навучаньня мове) – поўнае заглыбленьне ў валійскамоўную атмасфэру. Толькі так у варунках татальнага панаваньня ангельшчыны ў СМІ можна ўтварыць паўнавартаснае асяродзьдзе для натуральнага засваеньня і ўжываньня мовы. Калі сп-ня Rita Jones, якая займае пасаду Cyfarwyddwr Cynorthwyol (ангельскай візытоўкі прынцыпова няма!) у нацыянальнай сядзібе MYM, тлумачыла гэты прын-цып, я ўнутрана трыюмфаваў: пра тое самае казалі нашым міністэрскім дамам мы зь Пятром Садоўскім у канцы 80-х, калі заклалі ў нашую праграму выхаваньня й навучаньня ў дзіцячым садку тую самую ідэю: ні слова па-расейску! Ствараў кантэкст, паказвай, тлумач жэстамі – рабі як хочаш, але не дапускай ніводнага расейскага слова, нават дзеля "зручнасьці разуменьня"! — гэтага дамагаліся мы ад выхавальніц, бо інакш – трасянка, інакш – пасіўнае валоданьне наборам беларускіх словаў.

Прапагандовая падрыхтоўка для "атакі" на англізаваныя сем'і ўлучала ў сябе папулярызацыю ідэі раньняга двумоўя: бацькоў перакон-валі праз плякаты, значкі, брашуркі, тэлесюжэты, што іншая, чым у сям'і, мова кантакту з раўналеткамі не зашкодзіць інтэлекту дзіцяці, а, наадварот, разаўе.

Дзяржава змушаная была пайсьці на саступкі. Зь 70-х па-валійску сталі выкладаць у дзяржаўных школах. Цяпер вынікі перапісаў падаюць: калі ў 1971 зь дзяцей ад 10 да 14 гадоў гаварыла па-валійску толькі 17%, дык у 1991 — ужо 26,9%, і рост працягваецца.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЬЦЬ

У Валіі існуе некалькі тысячаў грамадзкіх арганізацыяў — культурніцкіх, асьветных, маладзёвых, дабрачынных. І добрай паловай зь іх кіруюць нацыянальна сьведамыя людзі.

Urdd Gobaith Cymru — Валійская Ліга Моладзі — наймагутнейшы маладзёвы рух у краіне. Гісторыя яго налічвае ўжо 70 гадоў. Напачатку гэта быў адзін невялікі летнік, накшталт скаўцкага, з усёю пэдагагічнаю працаю вылучна па-валійску. Актывісты Urdd працавалі дабрахвотна, зьбіралі на гэтую справу ахвяраваньні. Але за 70 гадоў больш як паўмільёна дзяцей, і ня толькі з валійскамоўных сем'яў, пабылі ў адным з круглагадовых лягераў Urdd, раскіданых па ўсёй краіне. Я бачыў такі лягер у Llangrannog, на ўзьбярэжжы прахалоднае затокі Кардыган. Сьціплыя, але з усім неабходным жылыя карпусы, заля, басэн, іпадром, мотадром, ровары, на зялёным узгорку — схіл з мокрага палімэру для катаньня на іртах і санках, рэгбі-стадыён (rugby — нацыянальная гульня валійцаў)... І ўсё гэта — дзеля заглыбленьня дзіцяці ў чыста валійскамоўнае асяродзьдзе, у натуральны дзіцячы асяродак цікавае гульні: інакш не загаворыць па-валійску!

Мы акурат патрапілі туды, калі прыехала чарговая зьмена. 9-12-гадовых дзяцей на месца даставілі бацькі. Сямействы перакідваліся рэплікамі па-ангельску і чакалі сыгналу. Зьявіўся пэдагог з Urdd, прамовіў: Bore da! Croeso! («Дзень добры! Сардэчна запрашаем!») — і на маіх вачох здарыўся лінгвістычны цуд: бацькі перайшлі на валійскую і ўжо на роднай мове давалі апошнія наказы сваім рухавым атожылкам.



працяг на ст.8

канчатак

## Краіна цмока

Дзе ж бяруцца сродкі на гэтую раскошу? А з Эўропы! Ёсьць недзе там, у брусэльскіх бюракратаў, радок бюджэту: «дзіцячы й маладзёвы турызм». Турызмам лічыцца пераезд мінімум за 5 кілямэтраў — вось і маеш магчымасьць зьбіраць дзяцей з усяе краіны ды адпаведна выхоўваць.

У галоўнай залі llangrannog'скай сядзібы Urdd Gobaith Cymru вісяць кельцкія сьцягі: валійскі, шатляндзкі, брэтонскі, а на ганаровым месцы — ірляндзкі. Кельцкае братэрства абумоўленае ня толькі этнамоўнымі повязямі, але й супольным лёсам гэтых народаў: змаганьнем за страчаную дзяржаўнасьць і за выжываньне роднае мовы. Дарэчы, у валійскіх асяродках ідзе палеміка, ці ня быў бы ірляндзкі шлях, калі незалежнасьць вырываюць у акупанта кавалкамі коштам крывавае барацьбы, лепшым за цяперашні валійскі. Некаторыя валійскія маладыя нацыяналісты сымпатызуюць IPA. Але апанэнты «ірляндызму» зазначаюць, што ірляндцы падчас гэтае барацьбы фактычна незваротна страцілі мову (сапраўды, становішча гэльскай у Ірляндыі значна горшае, чым валійскай — у Валіі).

Я сутыкаўся зь меркаваньнем аднаго актывіста (гэта кіраўнік дому творчасьці моладзі Menter Taf-Elai у мястэчку Llantrisant), што нават дзейнасьць Таварыства Валійскае Мовы залішне радыкальная. Яно, маўляў, стаіць пікетамі замест таго, каб канструктыўна працаваць. Сам Menter прапагандуе валійскамоўны рок і «папсу», ладзіць валійскамоўныя спаборніцтвы рэгбі, вядзе гурткі нацыянальнае мастацкае творчасьці. Вынікі падобнай працы выдатныя: валійскія гурты сапраўды папулярныя нават у пераважна англамоўным Кардыфе, у чым мы пераканаліся, быўшы на канцэрце. Але акурат падчас нашай паездкі «экстрэмісты» з ТВМ ставіла пікеты каля крамаў электронікі фірмы Tandy ў трох гарадох краіны, бо ў крамах не было надпісаў па-валійску. Мяркую, што ніводная прыватная фірма ня любіць непатрэбных скандалаў, і Tandy зробіць-такі шыльды па-валійску. Карацей, на мой беларускі розум, усё трэба і ўсе пры справе.

У штаце Цэнтру дапамогі грамадзкім арганізацыям Валіі ёсьць адмысловая пасада: Welsh Language Officer. Такі сур'ёзны тытул носіць Шарлёта, паўночная валійка. Яна дапамагае грамадзкім арганізацыям Валіі правільна распрацоўваць нутраную моўную палітыку. Мы размаўлялі ў прысутнасьці кіраўніка Цэнтру, ангельца, і Шарлёта нэрвавалася, чуючы мае настойлівыя пытаньні: ці двумоўе можа ўратаваць валійскую мову? якія шанцы незалежнасьці краіны? Толькі калі шэф выйшаў, яна з палёгкай уздыхнула: вядома, толькі аднамоўе паўсюль, дзе гэта магчыма; вядома, здабудзем незалежнасьць! І наагул, дадала, я — сябра партыі Plaid Cymru і Таварыства Валійскае Мовы, толькі пры шэфе гэтага не афішую.

Аказалася, што ў бальшыні валійскіх грамадзкіх арганізацыяў на ключавых пасадах — такія самыя «бээнэфаўцы» і «тэбээмаўцы». Яны ведаюць, чаго хочуць, і я зычу ім дамагчыся сваёй праўды.

канчатак

## Мабілізацыя ёсьць ВАЙНОЙ

*Юры Астроўскі*

Самаарганізацыя загартаванае ў менскіх баёх моладзі падштурхнула чальцоў Фронту да зробленага 21-га чэрвеня кроку. Як рэгулярнаму войску папярэднічае паспалітае рушаньне, так і народная самаабарона папярэдне мае апірышча ў масавым незадавальненьні рэжымам. Тут далягляды відавочныя.

Назад, у двухсэнсоўнае йснаваньне, шляху няма, таксама як немагчыма вярнуць палеглых за Бацькаўшчыну ваяроў, палонных крывіцкіх дзяўчат, зруйнаваныя чужынцамі сьвятыні. Наш шлях – толькі наперад, толькі наўпрост. І палаючыя паходні будуць асьвятляць наш рух.

« Ёсьць толькі адзіны эфэктоўны чын прадухіліць забойства. Дзеля гэтага трэба забіць забойцу»,- кажуць у школах спэцвойскаў.
У нашым выпадку рыхтуецца зьніштажэньне цэлае нацыі. І менавіта нам наканавана гэта папярэдзіць.

Нацыя абрага свой троп. Вечнасьць глядзіць на нас зь нябёсаў і чакае на ўзьнятыя да сонца штандары.

**Беларусь перадусім !   З намі Бог !**

### Злосная мудрасьць філязофскія выслоўі

Хто не жыве ўва ўзьнёслым нібы дома, той успрыймае ўзьнёслае як нешта жудаснае й ашуканлівае.

Калі ты перш за ўсё й пры ўсіх акольнасьцях не выклікаеш страху, дык ніхто ня прыйме цябе настолькі ўсур'ёз, каб урэшце рэшт палюбіць цябе.

Хто хоча стацца кіроўцам людзей, мусіць наўпроцяж добрага прагалу часу славіцца сярод іх найнебясьпечнейшым ворагам.

У статках няма нічога добрага, нават калі яны бягуць утроп за табою.




Выданьне заснаванае менскімі раённымі радамі Маладога Фронту №3(4), 1998г.
А.Міксовіч - галоўны рэдактар
Падрыхтоўка макету - Цэнтар "Выдавецкая ініцыятыва".
Шчыры дзякуй гэтаксама ўсім, хто спрычыніўся да выпуску газэты.
Меркаваньні аўтараў могуць не супадаць з пунктам гледжаньня рэдакцыі.
Адказнасьць за дакладную падачу зьвестак нясуць аўтары матар'ялаў.
Адрэса для допісаў: 220005, Менск, а/с - 64